# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г.

Субота, 21 мая 1994 года

№52 (10752)

Цана 100 руб.


## ТВАЕ ГЕРОІ, БЕЛАРУСЬ






*Былы артылерыст Віктар Парфёнавіч Сідарэвіч закончыў Вялікую Айчынную вайну малодшым сяржантам у Берліне. За ратныя подзвігі ўзнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай вайны, ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі. Пасля вайны працаваў у паляводстве, механізатарам, сушыльшчыкам на збожжаскладзе, кіраваў будаўнічай брыгадай. Цяпер ветэран на заслужаным адпачынку, жыве ў вёсцы Хожава Маладзечанскага раёна.*

*На здымках: **В.П.Сідарэвіч;** падзякі ад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*



ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## ЛЯСЫ ЗАЗЕЛЯНЕЮЦЬ, КВЕТКІ РАСЦВІТУЦЬ

**Памятаеце, як раней у дзень нараджэння У.І.Леніна мы ўсе дружна выходзілі на суботнік? І як прыгажэлі пасля нашы гарады і вёскі! Часы мяняюцца, а неабходнасць наводзіць парадак і чысціню ва ўласным доме застаецца.**

Нядаўна выканкомы мінскіх абласнога і гарадскога Саветаў дэпутатаў прынялі рашэнне аб падрыхтоўцы зон адпачынку да летняга сезона, паляпшэнні санітарнага стану лясоў зялёнай зоны горада і вобласці. Наводзілі і наводзяць адпаведны "глянец" дзесяткі прадпрыемстваў і арганізацый. Сярод іх "Мінскзелянбуд", прадпрыемствы дарожна-маставога будаўніцтва і добраўпарадкавання, гандлю, грамадскага харчавання, "Мінскпасажыраўтатранс", аблаўтатранс і іншыя.

Распрацаваны маршруты, графікі перавозкі насельніцтва ў зоны адпачынку. Праведзена абследаванне пад"язных дарог да іх. Заўвагі перададзены спецыялізаванаму арэнднаму прадпрыемству "Мінскзелянбуд" і ўпраўленню дарожна-маставога будаўніцтва і добраўпарадкавання.

Быў аб"яўлены месячнік па санітарнай ачыстцы лясоў зялёнай зоны ад прамысловага і бытавога смецця.

Праведзена растлумачальная і папераджальная работа па ахове і ачыстцы лясоў з кіраўнікамі прадпрыемстваў, арганізацый і садоўніцкіх таварыстваў. А таксама з насельніцтвам — аб недапушчальнасці забруджвання зялёнай зоны, збору і продажу раслін, якія занесены ў Чырвоную кнігу.

Вынікі месячніка па санітарнай ачыстцы зялёнай зоны будуць падведзены да 1 ліпеня гэтага года. Для заахвочвання прадпрыемстваў і арганізацый, што праявілі актыўнасць, выдзелена 10 мільёнаў рублёў.

*Наталля ТУМАР.*

## ТАБЕЛЬ АБ "РАНГАХ"

**Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь зацвердзіў палажэнне аб класах служачых дзяржаўнага апарату. Згодна з гэтым дакументам, усе дзяржаўныя пасады падзяляюцца на дванаццаць класаў. Пры прысваенні адпаведнага "рангу" ўлічваецца шэраг момантаў: адукацыя, стаж, пасада. Займацца прысваеннем класнасці будуць пастаянныя камісіі.**

На праведзеным нядаўна ў аблвыканкоме пасяджэнні яны былі створаны. Так, пастаянную камісію па прысваенню класаў наменнікам старшыні, начальнікам упраўленняў, загадчыкам аддзелаў і старшыням камітэтаў аблвыканкома ўзначаліў старшыня абласнога Савета дэпутатаў А.І.Шішкевіч. Камісію па прысваенню класаў работнікам аддзела арганізацыйнай і кадравай работы аблсавета, аднесеным да служачых дзяржапарату, будзе ўзначальваць намеснік старшыні аблсавета К.К.Хвянько, а камісію па прысваенню класаў работнікам аддзелаў кіраўніцтва спраў аблвыканкома, аднесеным да служачых дзяржа парату, намеснік старшыні аблвыканкома Л.П.Падгурскі.

Аналагічныя камісіі будуць створаны ў райгарвыканкомах.

*(Наш кар.).*

## С ПЕСНЯМИ ПО РЕСПУБЛИКЕ

В очередной четырехдневный рейд отправилось 20 мая творческое объединение ветеранов войны, труда и Вооруженных Сил "Память сердца" во главе с председателем военно-научного общества при ЦДО генерал-лейтенантом запаса А.Яценко. Они посетят Барановичи, Березу, Кобрин, Брест, где выступят с концертами в Домах культуры и офицеров, солдатских клубах и школах. Это уже не первая поездка ветеранов-артистов по республике. А увенчиваются такие выступления обычно цветами и теплыми словами благодарности.

*Олег СИТНИКОВ.*

## 8 МІЛЬЯРДАЎ АД КАМЕРСАНТАЎ

Прыватнае прадпрымальніцтва — дабро ці зло? Катэгарычнага адказу на гэтае пытанне грамадства наша пакуль што не дало. Ды сёння яго, мабыць, і быць не можа, бо з кожнага дзесятка фірм, малых прадпрыемстваў, кааператываў, якія абяцалі несці ледзь ці не залатыя яйкі для свайго народа, толькі два-тры калектывы нешта вырабляюць. Астатнія — у адным месцы купяць, у другім прададуць даражэй, на чым і "вараць" нядрэнныя грошы. Матэрыяльна ніяк не памнажаючы багацце грамадства.

І ўсё ж ад камерцыйных структур адмахнуцца сёння нельга ніяк. Па-першае, яны далі работу многім людзям, звольненым з дзяржаўных прадпрыемстваў. Па-другое, толькі ў Салігорску за першы квартал сёлетняга года прадпрымальнікі пералічылі ў мясцовы бюджэт 8 мільярдаў 217 мільёнаў рублёў. Многа гэта ці мала? Гігант "Беларускалій" за гэты час выплаціў розных падаткаў на 33 мільярды. Увогуле, у гарадскім бюджэце ўклад камерцыйных структур складае 13,9 працэнта. Калі не лічыць таго ж "Беларускалія" — то цэлых 31,7 працэнта. А гэта — і рамонт дарог, і выплата зарплаты настаўнікам, медыкам...

— Вядома, пэўную частку сваіх даходаў камерсанты прыхоўваюць, бо нярэдка вядуць разлікі наяўнымі грашыма, не фіксуючы такія аперацыі ў дакументах, — гаворыць кіраўнік гарадской падатковай інспекцыі У.Ф.Жарскі. — Тым самым плацяць меншыя падаткі. Але ў камерцыю ўсё больш прыходзіць сапраўдных, сумленных прадпрымальнікаў. Значыць, і карысці ад яе нам будзе больш.

## ГАЗЕТА незалежнага прафсаюза

Учора выйшаў першы нумар газеты незалежнага прафсаюза работнікаў навукі і вытворчасці "Белая Русь". Дарэчы, яна і носіць такую назву.

У артыкуле "Дапамагчы ўсталявацца чалавечаму" рэдактар новага выдання А.П.Касцялецкая зазначае, што газета будзе імкнуцца непрадузята і аргументавана асвятляць пытанні прафсаюзнага, прадпрымальніцкага, навукова-вытворчага, палітычнага, сацыяльнага і культурнага жыцця рэспублікі, шляхі вываду яе з крызісу. Адна з галоўных задач "Белай Русі" – садзейнічаць развіццю прыватнага прадпрымальніцтва і малога бізнесу ў нашай рэспубліцы.

У першым нумары змешчаны інтэрв'ю з В.Ф.Кебічам – Старшынёй Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, А.Г.Былінскім – старшынёй ЦК прафсаюза навукі і вытворчасці "Белая Русь" і іншыя публікацыі.

Практычную дапамогу ў выпуску "Белай Русі" аказалі работнікі абласной газеты "Мінская праўда".

*(Наш кар.).*

■ Вдогонку событию

## ...А НАД СВИСЛОЧЬЮ КРИЧАЛИ ЧАЙКИ

**Уже за полчаса до начала митинга на крохотном пятачке перед Троицким предместьем стали собираться люди. И хотя с официальной информацией, предшествовавшей закладке в этот день памятника воинам, погибшим в ходе афганских событий, локальных войн и военных конфликтов, лично мне ознакомиться не довелось, людская молва оказалась сильнее.**

Пятнадцать лет назад первый гроб с мальчишкой, погибшим на афганской земле, пришел в одну из белорусских хат. Старшина дядя Сеня, встретивший жестокое послание "из-за речки", пожалуй, и не вспомнит сегодня, как звали того парня: Алешка, Генка? А может, Серега? Сколько их еще было потом! Но матери, зарывшей сына в землю, не забыть его никогда.

Вслед за первым вернутся домой закованными в цинк второй солдат, третий... Плеснут друзья-однополчане водки по стаканам, приглушат боль расставания. Забьются в истерике поседевшая мать, жена, лишившаяся мужа. Похлопает глазенками малыш, которому еще доведется спросить, где его отец. А для большинства людей ребята из ограниченного контингента по-прежнему будут "сажать" в чужом краю "деревья" да "выступать с концертами перед дружественным народом". О том, что в Афганистане убивают, они узнают позже. Узнают и зададутся вопросом: ради чего посылали своих сыновей на смерть?

Сегодня можно по-всякому называть тех, кто не долго думая распорядился чужими судьбами, по-разному оценивать нахождение наших солдат в соседней стране. Но не это главное. Синдром беспамятства не должен поселиться в нас. Беспамятства в отношении тех, кто выполнял приказ Родины, которую любил и за которую отдал самое дорогое, что имел, — свою жизнь. И закладка на маленьком островке на реке Свислочь первого в республиках бывшего Союза мемориала памяти ребят, погибших в чужом краю, стала еще одним шагом на пути к освобождению их из плена забвения.

Ком подкатывал к горлу при виде текущих по лицам вдов, матерей, сестер слез. Это они первыми призвали государство вспомнить о 764 сынах Беларуси, шагнувших в бессмертие. И отклик прозвучал. Правительство нашло возможность выделить деньги на финансирование строительства памятника. Не остались равнодушными к его возведению и граждане республики, соседи из ближнего и дальнего зарубежья.

По словам председателя Комитета по социальной защите военнослужащих при Совете Министров Беларуси Николая Чергинца, в этом году только россияне перечислили на строительство монумента более одного миллиона рублей. Имена всех тех, кто помогает ему возвыситьсянад островом, вносятся в исторический формуляр по созданию памятника. Памятника скорби, памяти и надежды — на то, что подобное не повторится. Именно поэтому вместе со списками погибших воинов, землей, привезенной с их могил, разбросанных сегодня по всем республикам некогда единой державы, а также с места былых боев, в капсулы, опущенные в основание монумента, было вложено и обращение к потомкам.

В свою очередь Председатель Совета Министров Беларуси Вячеслав Кебич, выступая перед собравшимися, заверил, что правительство республики сделает все возможное, дабы наши ребята больше никогда не проливали кровь за ее пределами. "Мы можем помогать тому же Таджикистану экономически, но мы никогда не пошлем туда своих сыновей", — сказал он.

Как хочется верить, что не будет больше в жизни старшего лейтенанта медицинской службы Олега Ишутина и лейтенанта Виктора Примака, склонивших головы в скорбном молчании, ни Гератов, ни Кандагаров. А бывший санинструктор разведроты Женя Котельников, назвавший своих сыновей в честь погибших в боях под Файзабадом и Джелалабадом друзей — Сашки Изупова и Лешки Гончаренко, наречет, наконец, при случае третьего малыша именем отца либо деда. И не доведется больше никогда увидеть совсем еще молодого парня с седой прядью в волосах; женщину, прильнувшую к груди мужа с болтающимся пустым рукавом свитера; мать, стоящую на коленях и под крики всполошившейся чайки повторяющую: "Будь проклята война"...

Так пусть придут сюда друзья и недруги. Пусть поклонятся этому маленькому кусочку земли, нашим детям. Они заслужили это. Ведь испокон веков по христианским законам считалось, что погибшие на поле брани с оружием в руках приравниваются к лику святых. Давайте помнить об этом.

*Александр МАКАРОВ.*

ПАЛІТЫЧНЫ БАРОМЕТР

■ Актуальнае інтэрв"ю

## ХТО БУДЗЕ КАНДЫДАТАМ?

**Нягледзячы на знешняе зацішша ў передвыбарным прэзідэнцкім марафоне, гаварыць аб часовай перадышцы пакуль што рана. Асноўная ўвага цяпер прыкавана да работы камісій па выбарах Прэзідэнта Беларусі. Аб тым, як праходзіць вывучэнне падпісных лістоў па вылучэнню кандыдатам у Прэзідэнты таго або іншага палітычнага лідэра, карэспандэнт Белінфарма папрасіла расказаць сакратара Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Івана Ліхача.**

— Над вывучэннем падпісных лістоў цяпер працуюць 180 раённых і гарадскіх камісій па выбарах. У Цэнтральнай камісіі пакуль што няма звестак ні аб колькасці сабраных подпісаў у падтрымку таго або іншага прэтэндэнта на прэзідэнцкае крэсла, ні аб колькасці ануляваных падпісных лістоў. Зразумела, што выбаршчыкі з нецярпеннем чакаюць падвядзення вынікаў першага этапа выбарнай кампаніі, але абнародаваць іх мы зможам толькі ў перыяд з 27 мая па 2 чэрвеня.

— Думаю, многіх цікавіць працэдура вывучэння падпісных лістоў. Ці могуць быць памылкі пры ацэнцы сапраўднасці подпісаў?

— Найбольш распаўсюджанымі з"яўляюцца наступныя маніпуляцыі з падпіснымі лістамі: у яго могуць быць унесены, што называецца, «мёртвыя душы», некаторыя з-за асаблівай сімпатыі падпісваюцца двойчы за аднаго і таго ж прэтэндэнта, ну, і, нарэшце, фіктыўныя подпісы — калі чалавек і не ведае, што яго прозвішча ўнеслі ў нейкія спісы. Выявіць такія «агрэхі» і павінны члены раённых і гарадскіх камісій па выбарах. Яны могуць звярнуцца за дапамогай да экспертаў з ліку юрыстаў, работнікаў пашпартных сталоў, супрацоўнікаў МУС і іншых. Сапраўднасць подпісаў правяраецца выбарачна, таму не здзіўляйцеся, калі прадстаўнікі камісіі па выбарах нанясуць вам візіт. Падпісныя лісты, дзе знойдзены фіктыўныя подпісы, подпісы аднаго і таго ж выбаршчыка «за сябе і за таго хлопца», подпісы грамадзян, якія не маюць права прымаць удзел у выбарах, прызнаюцца несапраўднымі. Дарэчы, у Крымінальным кодэксе такія дзеянні расцэньваюцца як разнавіднасць жульніцтва, унесены змяненні і ў Адміністрацыйны кодэкс, дзе таксама прадугледжана пакаранне за фальсіфікацыю падпісных лістоў.

Што датычыць магчымасці памылак, то яны, безумоўна, не выключаны, але іх працэнт невялікі. Зрэшты, і камп"ютэр не даў бы поўнай гарантыі.

— Якія парушэнні ў афармленні падпісных лістоў сустракаюцца найбольш часта?

— Гэта, у асноўным, парушэнні чыста тэхнічныя. Напрыклад, адзіным спісам афармляюцца подпісы жыхароў розных вёсак. Законам жа прадугледжана, што ў падпісным лісце павінны быць подпісы выбаршчыкаў, якія пражываюць толькі ў адным населеным пункце, а ў гарадах з раённым падзелам — у адным раёне.

— Ці ёсць гарантыі, што камісіі па выбарах непрадузята ставяцца да прэтэндэнтаў у кандыдаты?

— Думаю, што так. Камісіі фарміраваліся з прадстаўнікоў розных палітычных партый і аб"яднанняў.

*БЕЛІНФАРМ.*

## СТВОРАНЫ ВЫБАРЧЫЯ ЎЧАСТКІ

**Крыху больш месяца засталося да 23 чэрвеня. Дня, калі беларускі народ упершыню за сваю гісторыю будзе выбіраць Прэзідэнта. Адзін з важных момантаў падрыхтоўчага этапа перадвыбарнага марафону, можна сказаць, завяршыўся. Аб тым, як ён праходзіў, расказвае старшыня абласной камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні аблвыканкома С.С.ПАЎЛЮКЕВІЧ.**

— На гэтым этапе, — заўважыў Сяргей Сяргеевіч, — акрамя абласной камісіі, былі створаны адпаведныя камісіі па выбарах Прэзідэнта ў раёнах і гарадах. У іх склад увайшлі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, працоўных калектываў, розных палітычных партый. Створаны 1.132 выбарчыя ўчасткі. У тым ліку 16 новых у гарадах Барысаве, Маладзечне, Лагойскім, Любанскім, некаторых іншых раёнах. Аб стварэнні выбарчых участкаў насельніцтва інфармавана праз мясцовы друк. Утвораны ўчастковыя камісіі. У іх увайшло 12.616 чалавек.

Мяркуецца, што ўдзел у выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прыме звыш 1 мільёна 160 тысяч жыхароў Міншчыны. Вырашаны таксама фінансавыя пытанні. На ўсю выбарчую кампанію нам адпушчана 8 мільярдаў рублёў. На адзін участак прыпадае каля пяці мільёнаў рублёў. Гэтай сумы, лічу, дастаткова, каб можна было прафінансаваць усю работу.

Ініцыятыўнымі . групамі па вылучэнню кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта РБ праведзены збор подпісаў выбаршчыкаў. Зараз у раённых і гарадскіх камісіях правяраецца іх дакладнасць.

Па Мінскай вобласці праводзіўся збор подпісаў па 19 прэтэндэнтах. Найбольшую колькасць набраў Кебіч. Шмат выбаршчыкаў аддалі свае подпісы за Лукашэнку, Новікава, Шушкевіча, Пазняка, Дубко, Карпенку.

Падводзячы вынік праведзенай работы, хацелася б адзначыць, што мясцовыя ўлады ставяцца да яе з усёй сур'ёзнасцю і адказнасцю. У ліку лепшых можна назваць гарады Барысаў, Жодзіна, Лагойскі, Мінскі, Вілейскі, Клецкі і іншыя раёны.

У сваёй дзейнасці абласная, раённыя і гарадскія камісіі кіруюцца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і Законам аб выбарах Прэзідэнта.

*Запісаў Мікалай ЖУЧКО.*

## НЕХТА ГУБЛЯЕ, А НЕХТА ЗНАХОДЗІЦЬ

**У выніку чарговага этапа сацыялагічнага маніторынгу, які праводзіцца Цэнтрам эканамічнага і сацыяльна-палітычнага аналізу Беларускага інстытута навукова-тэхнічнай інфармацыі і прагнозу, вызначаны рэйтынг папулярнасці асноўных прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду Прэзідэнта Беларусі.**

Як паведаміў Белінфарму доктар сацыялагічных навук Ігар Катляроў, лідзіруе прэм'ер-міністр рэспублікі Вячаслаў Кебіч. За час, які прайшоў з мінулага, студзеньскага, этапа маніторынгу, яго рэйтынг павысіўся больш чым у 2 разы і складае сёння 18,3 працэнта. Асноўнай прычынай такога рэзкага скачка, паводле ацэнак спецыялістаў, з'яўляецца падпісанне дагавора аб адзінай рублёвай зоне з Расіяй. Акрамя таго, многія рэспандэнты сцвярджаюць, што ўрад В.Кебіча не дапусціў распаду прамысловага і сельскагаспадарчага комплексу, сацыяльных выбухаў і ўзрушэнняў, захаваў сістэму сацыяльнай абароны насельніцтва. Як мінус адзначаліся значны рост цэн за апошнія гады і сцвярджэнні аб карупцыі ў акружэнні прэм'ера.

На другім месцы народны дэпутат Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Аднак яго рэйтынг у параўнанні са студзенем істотна знізіўся. Цяпер яго падтрымліваюць 17,1 працэнта насельніцтва. А.Лукашэнка вядомы простаму народу як змагар з карупцыяй і прыхільнік аб'яднання з Расіяй. У той жа час рэспандэнты адзначаюць, што Аляксандр Рыгоравіч у апошні час захапіўся прэзідэнцкай гонкай і "закінуў" барацьбу з мафіёзнымі структурамі. Некаторых бянтэжыць каманда Лукашэнкі, погляды членаў якой нярэдка не супадаюць з яго іміджам.

Нечаканасцю можна назваць ганаровую трэцюю пазіцыю яшчэ нядаўна малавядомага лідэра беларускіх камуністаў Васіля Новікава. Яго падтрымлівае 6,7 працэнта насельніцтва. Людзей прываблівае лозунг "Вярнуць народу ўсё, што ў яго забралі", а таксама ідэі сацыяльнай справядлівасці, сацыяльнай роўнасці, калектывізму, патрыятызму і іншыя асноватворныя палажэнні праграмы ПКБ. Акрамя гэтага, на В.Новікава "працуе" настальгія па тым часе, калі не было беспрацоўя і беднасці, граніц і мытняў.

Рэйтынг былога спікера беларускага парламента Станіслава Шушкевіча імкліва зніжаецца. Сёння яго падтрымлівае толькі 5,1 працэнта апытаных. Большасць рэспандэнтаў звязваюць з яго імем зніжэнне жыццёвага ўзроўню, выкліканае распадам Савецкага Саюза.

На пятым месцы лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазняк. За яго гатовы аддаць галасы 4,6 працэнта апытаных. Большасць жа палохае яго агрэсіўнасць, адкрыта негатыўныя адносіны да Расіі.

Менш як два працэнты рэспандэнтаў падтрымліваюць лідэра Партыі народнай згоды Генадзя Карпенку. Сацыёлагі звязваюць такі невысокі рэйтынг з тым, што ў час вядомай лютаўскай "палітычнай стачкі" Г.Карпенка падтрымаў БНФ. Гэтым самым ён разбурыў свой імідж прыхільніка лёгкіх перамен у грамадстве. Новы імідж — гаспадарніка, вучонага і апекуна мастацтваў — пакуль што не працуе.

Астатніх прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду больш-менш значная частка насельніцтва не падтрымлівае. Але трэба адзначыць, што больш як трэць насельніцтва яшчэ не вырашыла, за каго галасаваць. Шостая частка жыхароў рэспублікі наогул не мае намеру прымаць удзел у выбарах. Менавіта за галасы гэтых выбаршчыкаў і пойдзе барацьба на наступных этапах прэзідэнцкай гонкі.

*БЕЛІНФАРМ.*

